


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА

Не чакай долі, а здабудзь волю

№ 1 (190) СТУДЗЕНЬ 2015 ГОДА


ЗМАГАНЬНЕ З ДАРМАЕДЗТВАМ?..

# АКТЫВІСТУ АДМОВІЛІ Ў ПРАЦАЎЛАДКАВАНЬНІ 40 РАЗОЎ

**Леанід Аўтухоў, актывіст партыі БНФ, страціў працу ў 2008 годзе — яго скарацілі пасьля выбараў у Палату прадстаўнікоў, куды ён балятаваўся. З тае пары ён зрабіў каля 40 спробаў уладкавацца на працу, у тым ліку з дапамогай мясцовага цэнтру занятасьці. Усе яны былі безвыніковыя.**

Апошні раз яму адмовілі ў працы ўжо пасьля абвешчанай на на дзяржаўым узроўні «вайны з дармаедзтвам».

***«Я хачу працаваць, і я гатовы працаваць!»*** — з такім лёзунгам Леанід Аўтухоў жыве ўжо восьмы год. З гэткай думкай ён мінулай восенньню чарговы раз наведаў Гарадоцкі цэнтар занятасьці і нарэшце атрымаў веру ў станоўчы вынік — яго накіравалі на навучаньне пэрспэктыўнай спэцыяльнасьці, на курсы падвышэньня кваліфікацыі кіроўцаў да катэгорыі «Е»: *«Гэта ўжо сапраўды можна ўладкавацца туды, дзе ёсьць машыны з прычэпамі! Запатрабаваная прафэсія. Курсы такія ў Віцебску, я вучыўся за дзяржаўны кошт, а каштавала навучаньне 4 мільёны 180 тысяч. І яшчэ мне аплочвалі квіткі, што я езьдзіў на заняткі. Я атрымаў катэгорыю „Е", здаў іспыты ў ДАІ. А больш як палова „курсантаў" так і не здалі, дарэчы. Але ж я як сумленны грамадзянін, за якога дзяржава заплаціла грошы, сапраўды вучыўся і стараўся...»*

Пасьля курсаў Леанід Аўтухоў зноў зьявіўся ў цэнтар занятасьці. І атрымаў накіраваньне ў гарадоцкую філію ляспрамгасу, дзе была вакантная пасада кіроўцы. Але езьдзіць, як высьветлілася, там няма на чым, працягвае спадар Аўтухоў:

*«Пайшоў, сустрэўся з кіраўніком прадпрыемства, мне паказалі аўтамабіль. Ен стаіць ня першы год на вуліцы, разабраны, у глыбока непрацоўным стане. Я сказаў, што тут патрэбны не кіроўца, а аўтасьлесар. Але не адмаўляюся ад пасады кіроўцы — толькі спачатку заключыце са мной дамову, каб я аднаўляў машыну як аўтасьлесар. Толькі так, бо пакуль машына лічыцца ў рамонце, кіроўца атрымлівае толькі мінімальны заробак, 2 мільёны. А калі працуе на машыне — ад трох да пяці. Кіраўнік адмовіўся ад такога катэгарычна».*

Праз тэлефон у філіі гарадоцкага ляспрамгасу сказалі, што гэта Леанід Аўтухоў адмовіўся ад працы:

*«Вакансія ў нас ёсьць, гэта ён адмовіўся. Яму паказалі машыну, яна вымагае рамонту, і ён адмовіўся. У нас дзьве такія машыны, якія стаяць няспраўныя. Іншых машын няма. А гэтыя трэба рамантаваць перш чым езьдзіць».*

Абураны Леанід Аўтухоў пайшоў у райвыканкам, каб высьветліць: як можа быць такое, каб прадпрыемства абвяшчала вакансію, калі няма рэальнай працы:

*«Гэта закранае маю годнасьць! Калі тры такія адмовы, то зь мяне могуць спагнаць грошы за навучаньне, і такія судовыя працэсы ў Гарадку ўжо ёсьць! Цэлыя 4 прызначаны на гэтым тыдні! Я ж не адмаўляўся! Няхай бы напісалі, што няма вакансіі, дый усё! У райвыканкаме спэцыяліст па ахове працы, Валянціна Конанава, са мной пагадзілася: якое дачыненьне я маю да рамонту машыны, які мусіць рабіць адмысловец-аўтасьлесар 4-га разраду! А людзі ходзяць і ходзяць па такіх вакансіях, якіх няма! Дык я й пытаўся: куды зьвяртацца і што з гэтым рабіць?»*

Паводле Леаніда Аўтухова, кіраўнік сацыяльнай службы, спадар Прасолаў, абрынуўся на яго з папрокамі — маўляў, няма чаго скардзіцца, цэнтар занятасьці можа даць новае накіраваньне. Аднак у тэлефоннай гутарцы з гэтай службай высьветлілася, што і яны не гарантуюць наяўнасьці вакансій:

*«Мы даём накіраваньне на вакансіі, якія ў нас ёсьць, а калі яны зьнікаюць, то зьнікаюць Гэта жыцьцё!»*

Пра тое, як вакансіі «зьнікаюць», Леанід Аўтухоў добра ведае: пасьля ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў у 2008 годзе яго скарацілі зь мясцовай структуры ЖКГ. І з тае пары пагалоска пра тое, што на працу хоча ўладкавацца апазыцыянэр, бяжыць паперадзе яго самога:

*«Толькі прыходжу, як мне заяўляюць: вакансіі больш няма, вось толькі што ўзялі чалавека. Так было 32 разы, потым я ўжо перастаў лічыць! Дзяўчатам з цэнтру занятасьці казаў: не называйце прозьвішча! Не называлі. Тэлефаную: „Ёсьць вакансія?" Адказваюць: „Так, ёсьць, дужа трэба". Прыходжу, на мяне глядзяць і кажуць: „Выбачайце, вось толькі што прыйшоў іншы чалавек"».*

Такіх фактаў на Віцебшчыне мноства — што заўважанаму ў апазыцыйнай дзейнасьці чалавеку, тым больш скарочанаму з працы, уладкавацца потым цяжка, а бывае, што й немагчыма. Але ж напрыканцы году на дзяржаўным узроўні была абвешчана барацьба з дармаедзтвам. Дык пачынаць яе варта не з самых «дармаедаў», якія не заўсёды становяцца такімі па ўласнай волі, перакананы Леанід Аўтухоў:

*«Я зьвярнуўся ў сакратарыят, пакінуў запіс у кнізе прапановаў у райвыканкаме. А назаўтра напісаў заяву ў пракуратуру. Няхай разьбіраюцца, як гэта так: дзяржава змагаецца з дармаедзтвам, а тут на працу ніяк не ўладкавацца!»*

Якраз у першыя дні новага году былы старшыня Віцебскага аблвыканкаму Аляксандар Косінец, прызначаны кіраўніком адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі, гаварыў пра неабходнасьць дэбюракратызацыі ў працы са зваротамі грамадзянаў — каб па кожнай, нават прыватнай, праблеме грамадзяне атрымлівалі вычарпальныя адказы і дапамогу. Гарадоцкі актывіст чакае адказу на свае пытаньні, якія лічыць пытаньнямі агульнадзяржаўнага маштабу.

**www.svaboda.org/content/lieanid-autuchou/26781172.html**



ПРАБЛЕМЫ РЫНКА

# "НАВАГОДНІЯ ПАДАРУНКІ" ДЛЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

**Новы рынак у Гарадку быў адкрыты да "Дажынак" з парушэннем беларускага заканадаўства. Гарадоцкі райспажыўсаюз на пачатку новага 2015 года дасылае прадпрымальнікам "навагоднія падарункі" -- паведамленні аб ліквідацыі іх гандлёвых месцаў не пазней 10 студзеня.**

Мясцовыя ўлады пры падрыхтоўцы да "Дажынак" абяцалі прадпрымальнікам і жыхарам Гарадоччыны новы сучасны рынак. Але час, які прайшоў з пачатку адкрыцця рынка Гарадоцкага райспажыўсаюза па вул. Ўзгор'е, паказаў, што гэты інвестыцыйны праект усё яшчэ не закончаны, а таксама на ім парушаны нормы супрацьпажарнай бяспекі. І цярпець ад безгаспадарчасці мясцовага райспажыўсаюза зноў даводзіцца індывідуальным прадпрымальнікам, якія працуюць на рынку.

Трох месяцаў не хапіла Гарадоцкаму райспажыўсаюзу, каб пасля "Дажынак" абсталяваць стацыянарныя павільёны для гандлю садавінай і гароднінай, а таксама мясам і рыбай. У выніку прадпрымальнікі, якія гандлявалі садавінай вымушаны або закрыць свае гандлёвыя месцы або гандляваць прадуктамі, якія не псуюцца ад мароза. За тры месяца на рынку адкрылі толькі платную прыбіральню ( уваход каштуе 1000 рублёў) і кафетэрый.

Але большыя праблемы для гаспадара рынка цягне парушэнне супрацьпажарных патрабаванняў. Праектанты рынка разам з гаспадарамі і адказнымі кантралюючымі органамі не здолелі за год стварыць такое размяшчэнне гандлёвых месцаў, якое адпавядае супрацьпажарным патрабаванням. Аказваецца, што на новым рынку, як і дзесяцігоддзе на старым, не выкананы нормы супрацьпажарных разрываў і шырыны эвакуацыйнага прахода. Пра гэта адразу ў жніўні, а потым у лістападзе пісаў прадпісанні Гарадоцкі аддзел МНЗ, а таксама выставіла аналагічнае патрабаванне і Гарадоцкая пракуратура.

У выніку прадпрымальнікі, якія маюць гандлёвыя месцы ў ралетах, сталі атрымліваць пасля 2 студзеня паведамленні ад першага намесніка старшыні Гарадоцкага райспажыўсаюза А. Адзіночкінай аб вызваленні гандлёвых месцаў не пазней 10 студзеня.

Дадзенае патрабаванне ў чарговы раз прадэманстравала ўзровень працы кіраўнікоў Гарадоцкага райспажыўсаюза, якія не здольны сваечасова выконваць свае службовыя абавязкі. Але зараз зноў ад іх некампетэнтнасці найперш церпяць больш дзесятка прадпрымальнікаў і членаў іх сямей, а ў выніку і спажыўцы.

Між тым праблему магчыма вырашыць за кошт адкрыцця даўгачаканых павільёнаў і перамяшчэння асобных



*Справа рад ралетаў, які Гарадоцкі райспажыўсаюз мяркуе ліквідаваць*

ралетаў. Менавіта гэтага дабіваюцца ад райспажыўсаюза і ўладаў зацікаўленыя прадпрымальнікі. Відавочна, што ўзнікшую праблему магчыма было б рашыць і без "навагодніх падарункаў" аб вызваленні гандлёвых месцаў.

**Леанід Гаравы**
*фота аўтара*

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# НАБЫВАЕМ ЗІМОВЫ ІНВЕНТАР

**У "Глобусе" магчыма набыць танны зімовы спартыўны інвентар. Прапануем увазе чытачоў агляд коштаў крамы "Глобус" на зімовы спартыўны інвентар.**

Сёлятняя зіма ўжо крыху парадавала снегам і марозам. Сёняшні дождж значна паменшыў снег і дадаў галалёду на гарадоцкія вуліцы. Як кажуць, самы час станавіцца на канькі і не толькі на катку, але і на абледзенелыя тратуары.

Дзеля гэтага варта наведаць краму "Глобус" па вуліцы Савецкай ( былая крама "Кнігі"), дзе гандлююць канькамі для хакея і фігурнага катання. Канькі ў краму былі завезены яшчэ пад час"Дажынак"і таму іх кошт зараз вельмі добры для набыцця. Гэты кошт у залежнасці ад мадэлі і памеру ад 524 тысяч рублёў да 851 тысячы. Таксама ў наянасці ёсць камбінаваныя канькі на якіх магчыма пагойсаць як па льду зімой, так і па асфальце летам – іх кошт 789 тысяч рублёў.

Для хлопчыкаў, якія будуць гуляць у хакей, у краме маюцца клюшкі рознага памеру ад 113 тысяч рублёў да 227 тысяч.

Маюцца ў краме і пластыкавыя лыжы памерам ад 155 см да 205 см. Кошт такіх лыж ад 471 тысячы да 763 тысяч рублёў. Часам да іх у камплекце ідуць лыжныя палкі, а асобна яны прадаюцца коштам ад 102 тыся да 155 тысяч. Мацаванне для лыж каштуе ад 51 тысячы да 500 тысяч. А вось чаравікаў для лыж у краме няма.

Самы просты варыянт набыць чарвікі праз інтэрнэт-краму, дзе дастаўка на працягу 2-4 дзён па Беларусі бясплатна. У інтэрнэт крамах прапануюцца лыжныя чаравікі на розны густ. Чаравікі ад брэндаў Fischer, TISA пачынаюцца ад 1200 тысяч рублёў, а самыя простыя ад TREK Soul магчыма набыць у Віцебску за 405 тысяч рублёў ад інтэрнэт-крамы 24shop.by.

17-18 студзеня ў свеце прызначаны Сусветны дзень снега і яго добра адзначыць лыжнай вандроўкай. Да гэтага часу сіноптыкі прагназуюць чарговае пахаладанне.

**Л. Антонаў**

КУР'ЁЗЫ ГОДА

# САМЫЯ ДЗІЎНЫЯ ПАДЗЕІ ВОБЛАСЦІ Ў 2014 ГОДЗЕ

**Партал TUT.BY па Віцебскай вобласці падвёў вынікі кур'ёзных падзей мінулага года. У ТОР-12 кур'ёзных падзеяў года ўвайшлі тры падзеі, якія адбыліся ў Гарадоцкім раёне.**

У гэтым жыцці бывае ўсякае, і часам не ведаеш, што рабіць: смяяцца ці здзіўляцца нечай неразважлівасці.

**Жартоўнае пахаванне**

У лютым мы пабывалі, напэўна, у самай незвычайнай у гэтым годзе камандзіроўцы - на эратычных пахаванні. У Гарадоцкім раёне на Масленіцу заўсёды праводзяць старадаўні абрад "Пахаванне дзеда", падчас якога па "нябожчыку" адразу плачуць, а потым танчаць, смяюцца, ядуць і выпіваюць.

**Шчанюк "падстрэліў" паляўнічага**

Паляўнічтвазнавец Гарадоцкага лясгаса хацеў папаляваць на дзіка. Але ледзь не стаў ахвярай сам. Шчанюк лайкі падчас гульні націснуў на спускавы кручок. Зарад дробу прабіў пярэдняе сядзенне аўтамабіля і трапіў паляўнічаму ў ягадзіцы.

**Бедны "Тарас"**

У Гарадку праз два месяцы пасля ўстаноўкі дэмантавалі скульптурную кампазіцыю ў гонар паэмы "Тарас на Парнасе". Мясцовыя ўлады не разлічыліся з аўтарамі помніка - ліцэйшчыкамі і скульптарамі. Але, як паведаміў нядаўна партал haradok.info, кіраўнік райвыканкама паабяцаў, што помнік вернецца ў Гарадок, для гэтага адкрыюць рахунак для ахвяраванняў.

**Таццяна Матвеева TUT.BY**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# НАЙБУЙНЕЙШАЯ КАЛЕКЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ

**Найбуйнейшая калекцыя беларускай музыкі на youtube дасягнула 1,5 мільёна праслухоўванньяў. Наш зямляк Уладзімер Слабін стаў стваральнікам канала Second Belarus, дзе прадстаўлена найбуйнейшая калекцыя беларускай музыкі на youtube.**

Прапануем вашай увазе інтэрвью з Уладзімерам Слабіным. Сёньня канал Second Belarus на Youtube здабыў паўтара мільёна праглядаў. Стваральнікі называюць свой канал «найбуйнейшай калекцыяй беларускай музыкі ў сеціве».

З нагоды паўтарамільённага слухача Свабода паразмаўляла з гаспадаром youtube-канала Уладзімерам Слабіным.

***– Што ўяўляе зь сябе канал, што на ім знаходзіцца?***

*– На свой канал у Youtube я загружу больш як дзьве тысячы так званых мроіва-ролікаў зь беларускімі песьнямі. Зьмест відэа ў іх – кампутарнае мроіва, найчасьцей генэраванае візуалізатарамі з iTunes, G-Force, DiscoBrick ды інш. Мроіва зьмяняецца адпаведна гучаньню песьні.*

***– Навошта гэтае мроіва? Ці не прасьцей глядзець сьпевакоў і сьпявачак жывцом або проста слухаць?***

*– У мяне няма дзьвюх тысяч кліпаў з выканаўцамі песень, а калі якія і ёсьць, то няма аўтарскіх правоў на іх. Акрамя таго, мроіва-ролікі маюць перад кліпамі тую перавагу, што не ачмурваюць слухача-гледача відэашэрагам, які ня мае адносін да песьні. У адрозьненьне ад кліпаў, мроіва-ролікі даюць магчымасьць удумліва слухаць і разьвіваюць нашу фантазію. Пры гэтым яны не такія безаблічныя, як аўдыёзапісы. Таксама ёсьць выканаўцы, чые сцэнічныя вобразы мне не падабаюцца, зьняважаюць мой мастацкі густ. Але песьні ў іх выкананьні – нішто сабе, можна слухаць. Сьпевакі паcвойму таленавітыя і да таго ж прафэсіяналы, проста я не хачу іх бачыць. Тады лепей проста слухаць ды глядзець мроіва-ролікі.*

***– Колькі ўжо загружана песень?***

*– Да Новага 2011 году было сымбалічна загружана 2011 беларускіх песень, цяпер іх 2231 у 181альбоме.Цяпертамнятолькі мроіва-ролікі, але і некаторыя відэакампіляцыі накшталт «Сямнаццаці імгненьняў вясны». 853 сябры падпісаліся на канал, прыемна.*

***– Якія песьні найбольш папулярныя?***

*– У першай дзясятцы – «Тры чарапахі», «Разьвітаньне з радзімай», «Маё пакаленьне», «Мала сказаць: "Ненавіджу"», «Паветраны шар», «Лёгкія-лёгкія»... Але найбольш папулярным (126 тысяч праглядаў) чамусьці стаўся ролік зь песьняй Зьмітра Вайцюшкевіча «Будзе дождж». Штодня яго глядзяць 200–300 чалавек, і чамусьці 97% зь іх жывуць у Паўднёвай Карэі – Youtube-статыстыка. Я нават пераклаў Гуглам тэкст песьні на карэйскую, каб далёкаўсходнім сымпатыкам беларускага сьпевака было зразумела.*

***– А ў чым была першапачатковая мэта праекту? Стварыць базу беларускай музыкі – ці нешта большае?***

*– Як ні ўзьнёсла ды патэтычна гэта прагучыць, – хацеў зрабіць нешта добрае для роднай Беларусі, яе грамадзян, суайчыньнікаў у сьвеце. Прашу не шукаць іншых матываў – кажу як ёсьць. Каб кожны беларус мог зайсьці ў Сеціва, знайсьці і праслухаць улюбёную песьню. Такім чынам, хаця б віртуальна, падтрымаць наша беларускую культурніцкую супольнасьць, дзе б мы ні жылі. Задумваў канал Second Belarus на Youtube ня толькі як пацыяшальны асяродак, але і гэткі песенны дэпазытарый, адкуль кожны ахвотны можа ўставіць патрэбную песьню на свой сайт. Сам браў адтуль песьнідляБеларускагамузычнага календара (2011). Каляндар часова ў заняпадзе, але мроіва-ролікі з каналу, паводле Youtube-статыстыкі, штодня глядзяць і слухаюць каля 1000 чалавек.*

**www.svaboda.org/content/article/26783285.html**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

# ЗНОЎ ПАДВЯЛА НЯЎДАЛАЯ СТРАЛЬБА

**Настасся Дубарэзава ў спрынце ўпершыню апынулася на трэцім месцы з канца.**

Няўдала прайшла спрынтэрская гонка ў Аберхофе для Дубарэзавай, якая не справілася са стральбой, дапусціўшы шэсць промахаў, і хутчэй за ўсё ўпала на апошнім крузе. Гэта ставіць пытанне аб яе месцы ў камандзай эстафеце на наступным этапе ў Рупольдынгу.

У нямецкім Аберхофе завяршылася спрынтэрская гонка на 7,5 кіламетра ў біятланістак.Уняпростыхумовах надвор'я перамогу атрымала чэшка Вераніка Віткава, якая дапусціла па памылцы на кожным агнявым рубяжы (1 + 1).

ДругойсталаітальянкаДаратэя Вірэр (0 + 1), а трэцяе месца заняла яшчэ адна прадстаўніца Апенін Ніколь Ганцье (0 + 0).

Лепшай з беларусак сёння была Надзея Скардзіна (0 + 1), якая размясцілася на 9-м радку пратаколу. Дар'я Домрачава шмат часу правяла на першай стральбе і дапусціла ў дадатак да ўсяго 3 промахі. На другім агнявым рубяжы лідэр нашай каманды прамазала яшчэ раз і заняла ў выніку 18-е месца.

Надзея Пісарава (0 + 3) стала 27-й, Ірына Крыўко (1 + 1) - 28-й, а Анастасія Дубарэзава (4 + 2) - 91-й з 93 біятланістак, якія фінішавалі.

Лідэр агульнага заліку Кайса Макарайнен (2 + 2) фінішавала 20-й.

У нядзелю Дар'я Домрачава і Надзея Скардзіна прымуць удзел у мас-старце.

Агульны залік Кубка свету. 1. Кайса Макарайнен – 443; 2. Даратэя Вірэр – 334; 3. Валянціна Семярэнка – 330; 4. Дар'я Домрачава – 326; 5. Карын Аберхофер – 296; ... 14. Надзея Скардзіна – 214; ... 38. Надзея Пісарава – 68; ... 50. Настасся Дубарэзава - 36

... 63. Ірына Крыўко - 13.

Наступны этап Кубка свету пройдзе ў нямецкім Рупольдынгу 14-18 студзеня і будзе таксама складацца з эстафеты, спрынту і мас-старту. Жаночая эстафета адкрые этап 14 студзеня ў 16.30

**Л. Антонаў**

НАШ САЙТ

# НАМ СТАЛА ПЯЦЬ ГАДОЎ!

**4 студзеня 2010 года распачалося тэставае запаўненне сайта http://haradok.info і з'явілася першая навіна "Заробкі не дасягнулі і паловы абяцанага". За пяць гадоў на нашым сайце з'явілася 1546 навінаў і маецца сталы кантэнт пра розныя накірункі жыцця Гарадоччыны.**

За першы 2010 год на нашым сайце з'явілася толькі 13 навін, бо ў гэты час паўнавартасна дзейнічаў наш "бацькоўскі" сайт http://haradok.belarda.org . З гэтых 13 навін самай чытаемай стала навіна "Жыткевіча прынялі на працу" аб тым, што 29 снежня стала першым працоўным днём Аляксандра Жыткевіча ў Гарадоцкай ПМК-51, куды ён уладкаваўся бетоншчыкам-плотнікам. З гэтай навіной азнаёмілася на сёняшні дзень аж 3078 наведвальнікаў.

З 9 жніўня 2011 года сайт стаў пастаянна дзеючым інфармацыйным рэсурсам. І за другую палавіну 2011 года на ім з'явілася 106 навін.

У 2012 годзе мы працавалі ўжо з самага пачатку, інфармуючы чытачоў аб сацыяльна-эканамічным развіцці Гарадоцкага раёна, Беларусі і падзеях у Гарадку і раёне. Для чытачоў было падрыхтавана 336 навін.

У 2013 годзе сайт працягваў сваё развіццё. У кантэнце з'явіліся новыя раздзелы: "Картатэка Сталіна" – аб рэпрэсаваных у гады сталінскага тэрора нашых земляках, "Газета "Гасцінец"" – архіў незалежнага выдання "Гасцінец". Для чытачоў было падрыхтавана 370 нататак.

За мінулы 2014 год мы актывізавалі працу сайта – перайшлі на запаўненне сайта двума нататкамі ў дзень і 14 за тыдзень. Усяго на нашым сайце ў 2014 годзе з'явілася 760 навінаў. Адначасова з гэтым актыўна стала пашырацца кола нашых супольнасцяў у сацыяльных сетках: http://ok.ru/novostigorodka -- 565 удзельнікаў і http://vk.com/haradok -- 859 удзельнікаў. Мы сталі заўважныя на інтэрнэт лічыльніках, трапляючы ў першыя 20% інтэрнэт навінных рэсурсаў у краіне.

На 2015 год маем планы па далейшаму палепшэнню працы нашага рэсурса дзеля таго, каб нашы наведвальнікі пастаянна заставаліся з намі. Мы рады кожнай думке накошт паляпшэння працы сайта.

**Адміністрацыя сайта**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# БАРАЦЬБУ З ДАРМАЕДАМІ ПАЧАЛІ З ПЕНСІЯНЕРАЎ?

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ў межах кампаніі па барацьбе з так званымі дармаедамі распрацавала праект дакумента, у якім прапісаныя меры па ўключэнню непрацуючых працаздольных грамадзян у працоўную дзейнасць. Пра тое, якія меры прадугледжвае дакумент, чыноўнікі пакуль не кажуць.**

Як адзначыў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Валеры Кавалькоў, дакумент яшчэ не прыняты і цяпер знаходзіцца ў Адміністрацыі прэзідэнта. Пра тое, калі ж грамадскасць даведаецца, што за сюрпрыз чыноўнікі падрыхтавалі непрацуючым суграмадзянам, невядома. Як адзначыў намеснік міністра, рашэнне ў гэтым выпадку павінен прыняць кіраўнік дзяржавы.

Валеры Кавалькоў толькі адзначыў, што тэрмін «дармаед» у Беларусі не ўзаконены, а праект дакумента рыхтаваўся ў адпаведнасці з палажэннямі Канстытуцыі.

Нагадаем, Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду прымусіць працаваць тых, хто афіцыйна нідзе не працуе, да 1 студзеня 2015 года. *«Любымі спосабамі, якія мы ведаем і ўмеем рабіць, трэба прымусіць гэтых людзей працаваць!* - падкрэсліваў Лукашэнка на нарадзе 20 кастрычніка. - *Да 1 студзеня прыняць меры, каб усе працавалі, прымусіць усіх працаваць!»*

На тым жа нарадзе Лукашэнка прывёў і некаторыя лічбы. Так, па яго дадзеных, *«каля 500 тысяч нашых грамадзян не задзейнічаны ў эканоміцы краіны». «Хай 100 тысяч - гэта хатнія гаспадыні і што працуюць на ўласным падворку. А 400 тысяч чым займаюцца? За чый кошт жывуць?»*- Задавалася пытаннямі кіраўнік дзяржавы.

Ён даручыў тагачаснаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову і дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Аляксандру Мяжуеву ўнесці прапановы па гэтай праблеме і да канца года далажыць аб праведзенай працы.

Лукашэнка тады таксама падтрымаў ініцыятыву Міністэрства ўнутраных спраў, якое прапанавала вярнуць норму, якая дазваляла прыцягваць да адказнасці грамадзян, якія не працуюць і ўхіляюцца ад працаўладкавання.

Эксперты звярталі ўвагу, што ўлады разгарнулі кампанію ня супраць дармаедаў, а супраць тых, якія працуюць нелегальна. Маўляў, дзяржава зацікаўлена, каб падаткі плаціліся спраўна, а сродкі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) паступалі ў дастатковай колькасці. Бо каля 70% падатковай нагрузкі ў Беларусі прыпадае на адлічэнні прадпрыемстваў у ФСАН.

Будуць праблемы з напаўненнем фонду, пад пагрозай апынецца выплата дапамог, бальнічных і, у першую чаргу, пенсій. А так як дзяржава пакуль не прадпрымае ніякіх мер па рэфармаванні пенсійнай сістэмы, то, такім чынам, будзе шукаць любыя спосабы фонд папоўніць.

Адзін з іх - павелічэнне перыяду абавязковых выплат у ФСАН. Так, з 1 студзеня 2015 года павялічаны мінімальны стаж працы для прызначэння пенсіі па ўзросту і пенсіі за выслугу гадоў з 10 да 15 гадоў.

*«Рэалізацыя гэтых мер дасць магчымасць узмацніць значнасць стажу ў памеры пенсіі і матывацыю работнікаў да доўгай легальнай працоўнай дзейнасці і абмяжуе утрыманскія настроі»*, - адзначыў Валеры Кавалькоў.

Да 2014 года мінімальны працоўны стаж, неабходны для прызначэння пенсіі па ўзросту і пенсіі за выслугу гадоў, складаў 5 гадоў, аднак з 1 студзеня 2014 года ён быў павялічаны да 10 гадоў, а з 1 студзеня 2015 года - да 15 гадоў. Акрамя таго, з 2015 года для грамадзян, якія не маюць мінімальны стаж працы, прадугледжана павелічэнне пенсійнага ўзросту да 60 гадоў у жанчын і 65 - у мужчын.

Валеры Кавалькоў не змог сказаць, колькі людзей пенсійнага ўзросту ў цяперашні час не маюць 15-гадовага стажу працы, паколькі «ацэнка працоўнага стажу робіцца на момант, калі яны прыходзяць у пенсійную сістэму».

Паводле ацэнак Мінпрацы, такіх людзей у Беларусі можа быць прыкладна 5-10 тысяч чалавек.

Што рабіць тым, хто ў сілу розных прычын не адпрацаваў неабходную колькасць гадоў для прызначэння працоўнай пенсіі?

*«Давядзецца дапрацаваць,* - сказаў Валеры Кавалькоў. - *Калі не хапае 15 гадоў працоўнага стажу, пенсія прызначаная не будзе: жанчыне ў 60 гадоў, мужчыну - у 65 будзе прызначаная сацыяльная пенсія, але гэтая пенсія складае 50% пражытачнага мінімуму і сёння складае 700 тысяч рублёў»*.

Намеснік міністра дадаў, што ў краіне няма напружання на рынку працы - на кожнага афіцыйна беспрацоўнага прыпадае дзве вакансіі. Адным словам, працу знайсці нескладана. Іншая справа, што большасць прапаноў не карыстаюцца попытам з-за нізкіх заробкаў.

**Алена Спасюк**
**БЕЛАПАН**

СВАБОДА СЛОВА

# ПАРИЖСКИЙ ТЕРАКТ ОТОЗВАЛСЯ ГРОЗНЫМ ЭХОМ В РОССИИ

**То, что представители «Исламского государства» приветствовали расстрел во французской столице, удивления не вызывает. Но вот есть такая организация, как Союз муфтиев России, которая, по религиозным меркам, считается центристской. И поэтому её позиция впечатляет гораздо больше.**

Союз муфтиев России выступил с заявлением, в котором гневно осудил теракт в Париже. Но! Читаем документ дальше и узнаем, что, оказывается, грех провокации в нашем мире не менее опасен для сохранения мира, чем грех тех, кто на эту провокацию способен поддаться. *«Оскорбление чувств верующих недопустимо, как и недопустимы любые проявления экстремизма, любое посягательство на жизни мирных людей»,* — считают в организации.




В итоге киллеров и их жертв поставили на одну доску. Более того, между строк можно прочитать, к кому из них на самом деле хуже относятся российские муфтии. Журналисты Charlie Hebdo, по сути, названы провокаторами, а террористы «всего лишь» поддавшимися на провокацию.

Но, позвольте, с каких пор шутка, пусть даже и неудачная, стала считаться не меньшим грехом, чем хладнокровное убийство безоружных людей?..

Вывод «сами виноваты» в отношении случившегося в Париже вообще получил в России достаточно широкое распространение. Вот писатель Сергей Шаргунов интервью «Эху Москвы» начинает с того, что «сходил в храм Божий, как всегда делаю на Рождество». Потом коротко упоминается «варварский террористический акт». После чего начинаются пространные рассуждения: *«Это повод поразмышлять о границах дозволенного в журналистике... Очевидно, что мир оказался в такой ситуации, что это кого-то очень сильно оскорбляет, если это бьет по чужим религиозным чувствам, то каждый раз человек, который снова и снова идет на это, он знает, что не надо рисовать карикатуры на пророка Мухаммеда, он понимает, чем рискует – рискует своей головой. Значит, журналисты отдавали себе отчет, что они рискуют своими головами»*.

На самом деле, исходя из подобной логики, можно обосновать убийство практически любого человека. Всегда кто-то может расценить чьи-то действия как провокацию. Абсолютное большинство жертв исламских террористов не рисовали карикатуры на Пророка, но это не помешало бандитам их убить. Просто потому что они бандиты. А повод... Повод всегда найдется.

Печально, что очень многие в России этого не понимают. Да и в Беларуси наверняка хватает тех, кто думает подобным образом. Но случившееся в Париже заставляет задуматься: на чьей мы стороне пусть даже чисто морально? Потому что это тот случай, когда или – или. И если позиция «я осуждаю, но...» становится главенствующей, значит, террористы достигли своих целей.

**Александр Старикевич**
**"Салідарнасць"**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АПАЗІЦЫЯ НЯ ГУБЛЯЕ НАДЗЕІ ДАМОВІЦЦА

**Здольнасць апазіцыі дамовіцца аб вылучэнні адзінага Кандыдата ў прэзідэнты на ВЫБАРЫ 2015 "залежыць ад палітычнай выспеласці апазіцыйных суб'ектаў".**

Такое меркаванне выказаў у каментары БелаПАН палітолаг Валер Карбалевіч. Ён адзначыў, што сітуацыя ў краіне ў апошні час змянілася. «Да гэтага часу лічылася, што прэзідэнцкія выбары будуць прахаднымі, дзяжурнымі, а таму наогул не мае значэння, два-тры кандыдаты будзе ці адзін. Але цяпер, на фоне фінансава-эканамічнага крызісу, сітуацыя змянілася. Гэта значыць, што тактыка апазіцыі будзе мець вялікае значэнне на выбарах 2015 года », - перакананы палітолаг.

Для старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзькі «больш важным быў бы вынік выйсця не столькі на адзінага кандыдата, колькі на адзіны сцэнар дзеяння». «Калі ў апазіцыі будзе адзіны сцэнар дзеяння, агульны план, то ў ім можа быць і адзін, і некалькі спікераў. Хоць не будзем выключаць і магчымасці вырашэння пытання па адзіным кандыдату ", - заўважыў палітык.

Старшыня руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, які ўдзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі 2006 года як адзіны кандыдат ад апазіцыі, перакананы: надзеі на выхад на адзінага кандыдата ад "ніколі нельга губляць». «Хоць шанцаў вельмі мала. Здарылася тое, што здарылася. Чым слабейшы апазіцыя, тым менш у яе прыкладаў працы з грамадствам і тым больш яна думае аб фармальных рэчах: хто спікер, каго часцей прымаюць за мяжой », - сказаў Мілінкевіч.

Пры гэтым ён са шкадаваннем дадаў, што ў апазіцыі «ідзе ўнутраная барацьба», якая аслабляе дэмакратычныя сілы.

Як паведамлялася раней, 17 лістапада пяць апазіцыйных партый і арганізацый падпісалі ў Мінску пагадненне аб працэдуры вылучэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах. У ліку тых, хто падпісаў пагадненне Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух "За Свабоду", кампанія «Гавары праўду», Партыя БНФ і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Між тым перамовы аб абранні адзінага кандыдата вялі сем апазіцыйных структур: названыя арганізацыі, а таксама Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» і Аб'яднаная грамадзянская партыя. Прадстаўнікі двух апошніх ўзялі час падумаць, ці варта ім далучацца да гэтага пагаднення.

Чакаецца, што адзіны кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі будзе вызначаны на кангрэсе дэмакратычных сіл, які павінен прайсці гэтай вясной.

Выбары прэзідэнта павінны прайсці не пазней за 20 лістапада.

**Прэс-служба**
**"Рух "За Свабоду!"**

ДЫКРЭТ №5

# ДЗЯРЖАВА НАСТУПАЕ НА СТАРЫЯ ГРАБЛІ

**Нізкая эфектыўнасць работы прадпрыемстваў, праблемы кіравальнасці эканомікай даўно сталі галаўным болем чыноўнікаў, разабрацца з якой паспрабавалі праз прыняцце прэзідэнцкага дэкрэта № 5. Аднак рэалізацыя яго палажэнняў не прывядзе да мэты.**

Сапраўды, статыстыка малюе змрочную карціну. Так, 55% дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў стратныя, ды і з прадукцыйнасцю працы за апошнія гады сітуацыя значна не палепшылася.

Так, па апошніх дадзеных, Беларусь па прадукцыйнасці працы адстае ад узроўню краін Еўрапейскага саюза ў чатыры разы. Улады ў спробах палепшыць гэты паказчык ўвялі механізм залежнасці зарплаты ад прадукцыйнасці працы: ёсць рост прадукцыйнасці - будзе і рост заробкаў, інакш ніяк. Аднак і гэтая мера слаба паўплывала на сітуацыю.

Эксперты даўно заяўлялі аб назапашаных дысбалансу ў гэтай сферы, неабходнасці структурных рэформаў. Аднак улады ў чарговы раз вырашылі выкарыстаць старыя сродкі.

**Зноў вырашана закруціць гайкі**

Пяты дэкрэт атрымаўся досыць традыцыйным для айчыннага заканадаўства. Асноўная стаўка зроблена на тое, што чарговае ўзмацненне жорсткасці патрабаванняў з боку дзяржавы да работнікаў і кіруючаму складу дазволіць вырашыць праблемы прадпрыемстваў і арганізацый, эканомікі ў цэлым.

Падпісанне дэкрэта выклікала хвалю крытыкі ў незалежных СМІ, бо многія нормы гэтага дакумента супярэчаць працоўным заканадаўстве і пагаршаюць умовы працы работнікаў прадпрыемстваў. У дадатак дзеянне дакумента распаўсюджваецца на арганізацыі ўсіх форм уласнасці, а гэта азначае ўзмацненне ўмяшання дзяржавы ў справы прыватнага бізнесу.

Зрэшты, улічваючы спецыфіку працы прафсаюзаў у Беларусі, можна канстатаваць: якое б ні было працоўнае заканадаўства, казаць аб яго выкананні і рэальнай абароне правоў работнікаў не прыходзіцца. Што ж да ўмяшання ў справы бізнэсу - то гэта далёка не першы і не апошні выпадак, падобны падыход не з'яўляецца сюрпрызам.

Пытанне ў іншым: дзеля чаго ўлады пайшлі на такія меры? Прынядце гэтага нарматыўна-прававога акта, хутчэй за ўсё, стане чарговай памылкай, на якіх беларускія чыноўнікі, на жаль, не вучацца. Яго нормы не толькі не здольныя палепшыць сітуацыю, а хутчэй наадварот - толькі абвастрыліся супярэчнасці.

У першым выпадку размова ідзе пра прэзідэнцкай дырэктыве 2004 года «Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны». Яна таксама была накіравана на ўзмацненне жорсткасці патрабаванняў да работнікаў і кіраўнікам, павышэнне іх адказнасці. Выніку, калі меркаваць па сённяшнім становішчу спраў, дакумент не даў.

Другі сугучны па духу нарматыўны акт - дэкрэт № 9 "Аб дадатковых мерах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці" (2012 год).

Гэты дэкрэт таксама выйшаў досыць спрэчным і таксама прадугледжваў закручванне гаек на прадпрыемствах дрэваапрацоўчай прамысловасці з мэтай павышэння эфектыўнасці іх работы.

З-за некаторых змяшчаюцца ў ім мер, напрыклад абмежаванні на магчымасць звальнення з прадпрыемства, аглядальнікі метафарычна загаварылі аб увядзенні прыгоннага права.

Аднак і гэты дакумент, нягледзячы на досыць жорсткі характар, не змог палепшыць сітуацыю ў дрэваапрацоўцы.

У цэлым, калі звярнуцца да гісторыі апошніх гадоў, то можна заўважыць, што беларускія ўлады з зайздроснай упартасцю спрабавалі дазволіць шматлікія праблемы менавіта пры дапамозе ўзмацнення жорсткасці мер, закручвання гаек і г.д.

Прычыны таму - як негатыўнае у прынцыпе стаўленне кіраўніцтва краіны да рэформаў, так і палітычныя перадумовы: на 2015 год прызначаныя прэзідэнцкія выбары, і ўзрушэнні на чале дзяржавы ў гэты перыяд асабліва непажаданыя.

**Эканоміка залішне зарэгулявана**

Большасць прадпрыемстваў дзяржсектара за апошнія дзесяцігоддзі прызвычаілася працаваць ва ўмовах нізкай канкурэнцыі, дзяржзакупак і бюджэтных датацый; эфектыўнасць працы толькі ў апошні час сталі вызначаць па колькасці продажаў, а не аб'ёмах выпуску.

Вырашыць праблемы толькі толькі нормамі дэкрэта будзе немагчыма. Без змены істотных умоў працы гэтых прадпрыемстваў і эканамічнай асяроддзя, у якой яны знаходзяцца, нічога не атрымаецца. На сённяшні дзень шматлікія праблемы магла б вырашыць палітыка, накіраваная на зніжэнне дзяржаўнага рэгулявання большасці сфер.

Да прыкладу, дзяржаўнае рэгуляванне цэн змушае многія прадпрыемствы працаваць у нуль, а то і зусім сыходзіць у мінус. Існуючыя механізмы тэндэраў і дзяржзакупак таксама зніжаюць эфектыўнасць і выніковасць працы шматлікіх прадпрыемстваў.

Такім чынам, прыняўшы дэкрэт № 5, улады паспрабавалі ў чарговы раз адтэрмінаваць ўжо даўно наспелыя структурныя пераўтварэнні. Аднак такія адтэрміноўкі кожны раз прыводзяць да ўзмацнення негатыўных фактараў.

**Мікіта Бляяеў**

**Чытаць цалкам: naviny.by**

ПОГЛЯД З МАСКВЫ

# «УБИТЬ КЛОУНА МОЖЕТ ТОЛЬКО РОЖДЕННЫЙ ОТ ЗВЕРЯ»

**Сначала в качестве преамбулы... Несколько лет я писал еженедельные свои посты на "Эхо Москвы". Я наивно считал, что кто-то к ним прислушивается. Я наивно заканчивал каждый свой пост фразой: «Будьте здоровы и держите себя в руках». Никто этих слов не слышал.**

Болезнь развивается по своим законам.

Если пациент отказывается от лечения, помочь ему нельзя. Возможно только принудительная госпитализация, а это чревато сроком. Все, все взаимосвязано в этом мире. Агрессия и зло не имеют границ. Зло наступает по всем фронтам. Зло под маской духовности и божественной справедливости. Неважно, в каком обличье Бог.

Война идет между здравым смыслом и безумием.

Убить средь бела дня невооруженных, безобидных, выполняющих свой профессиональный долг людей - у себя в стране, у себя дома – это чудовищный вызов и чудовищная несправедливость.

Убийство художников и журналистов – это вызов этой самой цивилизации и мировой культуре.

Убить клоуна может только рожденный от зверя.

Сказать, что эти нелюди были оскорблены – чистая глупость. Нечеловек не может быть оскорблен - у него нет этих чувств. Не объяснить им, этим нелюдям, что ответом на рисунок может быть только рисунок, ответом на слово может быть только слово. Рисовать карикатуры можно про все и на всех.

А про Холокост можно? – спрашивают часто меня некоторые граждане.

Рисуйте! Если вас смешит уничтожение миллионов в газовых камерах и это вас веселит – рисуйте... Я не буду призывать за это убивать вас, вы просто для меня будете существовать в другом пространстве и в другом мире. Как существуют многие в другом мире и в другом пространстве. Куда я не пойду. Куда я не хочу идти.

Это мой выбор.

Не ходите и вы в мой мир. В наш мир. Да еще с автоматом. Или с бейсбольной битой. Не смотрите спектакли моего (нашего) мира. Не читайте книги моего (нашего) мира. Я (мы) не ходим ведь в ваш мир?

Давайте на журналах, фильмах, программах спектаклей писать, кроме возрастных категорий, еще и список тех, кого это может оскорбить.

Впрочем, достаточно написать одну фразу «Это может оскорбить безграмотных идиотов». Но они, эти безграмотные идиоты, не примут это на свой счет. Они-то считают себя как раз грамотными и не идиотами.

Если в каком-то африканском племени оскорблением считается не проколотый большим кольцом или костью нос, то тогда что же, во всех европейских журналах надо прокалывать носы? Хотя бы в фотошопе?

И последнее.

Если сообщество мусульман России сочло, что грех кровопролития равен греху якобы провокации, то они – соучастники этого ужасного преступления. Рисовать и писать надо продолжать то, что считаешь нужным. Как это сделали сегодня французские журналисты и французские художники.

Мои соболезнования всем тем, кто был близок к погибшим. Закончу свой текст такой фразой: вы не здоровы. И вы не умеете держать себя в руках.

**Андрей Бильжо**

**«Эхо Москвы»**

КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

# "ЧАРГОВЫ АКТ СПЭКТАКЛЮ ПРА СПРАВЯДЛІВАГА ЦАРА І НЯДБАЙНЫХ БАЯРАЎ"

**Як варта ацаніць кадравыя зьмены, праведзеныя Аляксандрам Лукашэнкам? Ці гэта прызначэньні, закліканыя змагацца выключана з цяперашнім эканамічным і валютным крызісам? Ці яны зробленыя з пэрспэктывай больш далёкай і больш важнай — а менавіта прэзыдэнцкай кампаніі?**

На гэтыя пытаньні адказвае кіраўнік аналітычны праектаў кампаніі БелаПАН Аляксандар Класкоўскі

**Цыганкоў:** На вашую думку, у чым асноўны сэнс і значэньне гэтых, бадай, самых радыкальных зьменаў у кіраўніцтве Беларусі за апошнія гады? Ці Аляксандра Лукашэнка мае на мэце толькі эканоміку ці ён глядзіць больш далёка — у прэзыдэнцкую кампанію?

**Класкоўскі:** Ведаеце, пра выбары Аляксандар Лукашэнка думае заўсёды. У шырокім сэнсе — ён дбае, як найлепей выглядаць перад электаратам. У гэтым сэнсе мы проста бачым чарговы акт вядомага старога спэктаклю пра справядлівага цара і нядбайных баяраў.

На гэты раз ён адным стрэлам забівае адразу некалькі зайцоў. Па-першае, сьпісвае апошнія фінансавыя праблемы на «ахвярных казлоў». Па-другое, рэсурс «новай мятлы». Я маю на ўвазе — каго б ён не прызначыў, спачатку людзі рвуць жылы, каб сябе пакаваць з лепшага боку. Тут імпульс ідзе сам па сябе, ад уліваньня сьвежай ці адносна сьвежай крыві. Ну і па-трэцяе, цяпер можна казаць электарату — «пачакайце, ня ўсё адразу, трэба даць час новым людзям, каб былі зьмены да лепшага».

Але ці будуць гэтыя зьмены — гэта пытаньне паўнамоцтваў. Я думаю, што перад выбарамі для Лукашэнкі вельмі рызыкоўна даваць такі карт-блянш, бо цяпер бязбольных рэцэптаў няма ў эканоміцы. Трэба выбіраць рэзкія, хірургічныя мэтады. Таму — ёсьць небясьпека, што сказаць: да выбараў усімі праўдамі і няпраўдамі трымайце гэты рубель, трымайце бачнасьць адноснай стабільнасьці ў эканоміцы.

**Цыганкоў:** У першых камэнтарах аглядальнікі адзначаюць, напрыклад, рынкавасьць і прафэсіяналізм новага кіраўніка Нацбанку. Якой эканамічнай палітыкі можна чакаць ад новых прызначэнцаў. Ці можна меркаваць, што да выбараў вялікіх кадравых зьменаў ужо ня будзе?

**Класкоўскі:** Вядома, пэрсаналіі граюць пэўную ролю. Але цяпер ня той час, каб ладзіць пэўныя акадэмічныя дыскусіі, вызначаць, які шлях патрэбны для беларускай эканомікі. Бо ў ёй ня зроблена элемэнтарнага — патрэбныя сыстэмныя рэформы, структурныя пераўтварэньні. Час толькі павялічвае вастрыню праблемы, дысбалянсы ў эканоміцы нарастаюць.

Пэрсона на чале ўраду ці Нацбанку мела б рэвалюцыйнае значэньне ў іншай, нармальнай палітычнай і эканамічнай сыстэме. У нас жа ўсё дэфармуецца тым, што сыстэма жорсткая, аўтарытарная і сыстэма пэрсаналісцкая. Таму, хто б не прыйшоў на тую ці іншую пасаду — яны будуць проста выканаўцамі найвышэйшай волі. Якую праграму закладзе ў гэты «кампутар» Лукашэнка — невядома. Я не выключае, што калі далей будзе валіца Расея, і ў нашай эканоміцы адпаведна будзе поўнае вар'яцтва — магчыма, яшчэ ні адна галава паляцідь да прэзыдэнцкіх выбараў.

**Віталь Цыганкоў**

**http://www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.01.2015 у 15.30** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.